© PDF: Kamunikat.org 2023 © PDF: Kamunikat.org 2023


# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 29 (1627) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 19 ЛІПЕНЯ 1987 г. ЦАНА 12 зл.




На гайнаўскіх жыллёвых пасёлках ёсць шматлікія пляцоўкі для дзіцячых гульняў.

Тэкст і фота Янкі Целушэцкага

## ГАЙНАЎСКІЯ ПАСЁЛКІ

Дваццаць пяць гадоў існуе **Жыллёвая спулдзельня ў Гайнаўцы.** Зараз кожны трэці гайнаўчанін пражывае ў спулдзельчых блоках на пасёлках: **Гайнаўка I, II і III, Цэнтр, 40-годдзя Народнай Польшчы.** Да 1990 года кватэры атрымае 753 сям'і. Расце наймалодшы пасёлак **„Мазуры“**, у якім запланавалі пабудаваць дваццаць два шматпавярховыя будынкі. Пасяліцца ў іх дзве тысячы чалавек.

Ужо цяпер вядома, дзе будуць будаваць жылыя блокі ў горадзе леснікоў і рабочых дрэваапрацоўчай прамысловасці да 2000 года. Будзе распачата пабудова яшчэ аднаго. пасёлка — **Падлясе.** Яго пабудуе **Бельскае будаўнічае прадпрыемства** — выканаўца тэрміновы і салідны.

Варта дадаць, што жыхары спулдзельчых шматсямейных будынкаў дбаюць пра кветкавыя агародчыкі і пляцоўкі для дзіцячых гульняў каля „сваіх“ блокаў. У святліцах і на спортпляцоўках адбываюцца шматлікія культурна-асветныя і спартыўна-рэкрэацыйныя мерапрыемствы.

Добра працуюць грамадскія пасялковыя камітэты. Дбаюць яны пра пабудову крамаў, лячэбніц, прадшколляў і ясляў, а таксама паслуговых павільёнаў у паасобных пасёлках, каб жыхарам было да іх блізка. Каб не трэба было хадзіць або ездзіць за нават дробнай пакупкай па ўсім горадзе і дарма траціць час. Члены камітэтаў клапоцяцца таксама пра тое, каб на міжблокавых пляцоўках раслі дэкаратыўныя кустарнікі ды кветкі. Каб дзецьі мелі дзе пагуляць. Каб усім лягчэй і прыемней жылося.

БЕЛАРУСКІЯ ЛЮДЗІ

## НАРОДЖАНАЯ СЛОВАМ

Родам з Дзяніскаў, выйшла замуж за Аркадзіка Мароза ў Паўлы, дзе была настаўніцай.

Валя — чалавек вялікай грамадска-культурнай актыўнасці, творца, які жыве ў пастаянных пошуках. Яе амбіцыя — ніколі не задаволіцца хоць крыху горшым. Усё, што рабіла і робіць, заўсёды „павінна быць найлепшае“. Ці арганізавала тэатральныя калектывы, ці падбірала для іх рэпертуар, ці рыхтавала дзяцей да конкурсу, ці спявала сама, ці ініцыявала іншыя формы культурнай дзейнасці — усё было на самым высокім, даступным ёй, узроўні. Тое, што рабіла, мусіла ўздзейнічаць на людзей моцна, ускалыхнуць імі да слёз, прымусіць думаць, выхоўваць.

Бурлівая культурная дзейнасць на беларускай ніве Валі Амельянюк пачалася ад песні. Дзяўчына вучылася тады ў Педагагічным ліцэі ў Бельску, у беларускім класе. „А любоў да песні прывіў Аляксандр Лукашук, які вучыў нас спеву ў ліцэі ад першага класа, — успамінае Валя. — Ён стварыў тады ў ліцэі дзявочы квартэт, з якім мы паў-Польшчы аб'ездзілі“.

Усё як жывое стаіць у памяці. Квартэт — гэта былі дзяўчаты: Галіна Піцэлюк з Вулькі Выганоўскай, Эмілія Саўчук з Сабятына, Люба Пацэвіч з Наракі і яна, Валя Амельянюк з Дзяніскаў. Светлыя і радасныя былі тыя дні — школьныя дні, была маладосць, сілы, здароўе. І галоўнае — перамоўная ахвота да дзейнасці, да працы, і тыя гады акрэслілі далейшае так працавітае жыццё Валянціны.

У школе была яна гарцэркай і так пачалася яе пазнейшая грамадска-палітычная праца. У ліцэі яна была старшынёй гуртка ЗМВ (Саюз вясковай моладзі) і з удзячнасцю ўспамінае ў тэтым месцы дырэктара ліцэя Мікалая Канашынскага, „які такую грамадскую жылку прышчапіў“ ёй.

Пасля заканчэння ліцэя ў 1968 г. накіравалі яе ў школу ў Паўлы. І тут сустрэлася Валянціна з ужо багата развітай мастацкай працай на беларускай літаратурнай мове. Кіраўнік школы Аляксей Максімюк вёў у Паўлах ужо вядомы тэатральны гуртох і хутка прыцягнуў у яго Валю. З кіраўніком працаваў таксама настаўнік Сяргей Філіпюк. Абодва былі глыбока свядомыя беларусы і цалкам адданыя справе распаўсюджвання беларускай культуры, вядомыя ў той час актывісты Беларускага таварыства. Яны заклалі ў Паўлах падваліны неўміручай там беларускай культурнай дзейнасці, якая і дагэтуль бурліць. Прыпомнім: да сёлетняга тэатральнага конкурсу Паўлы падрыхтавалі дзве п'есы, удзел у якіх прынялі разам звыш 20 чалавек.

У тыя 60-я гады паўлаўскі драмгуртох, як тады часта гаварылі, прыступіў да агульнакраёвага конкурсу „Вёска блізкая тэатра“ і атрымаў узнагароду 30 тысяч злотых.

Валя паднімае галаву з-над горбы здымкаў, дыпломаў, падзяк, якія мы разлажылі на стале ў яе зацішным доміку ў Бельску. „Ах, Паўлы! Там не магло быць інакш, — гаворыць Валя. — Там былі вялікія тэатральныя традыцыі. І ўжо ў першую зіму майго побыту там я

(Працяг на стар. 4)



У „Васілёчках“: „Ад ціхіх вёсак беларускай Беласточчыны дару вам песню“.

## З БУДОВЫ МУЗЕЯ

— Што чуваць на будове нашага музея? — з такім пытаннем „Ніва“ звярнулася да Канстанціна Майсені — старшыні Грамадскага камітэта пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы.

**К. М.:** — Перш за ўсё варта прыпомніць, што з мінулага года мы ўжо маем і карыстаемся ў нашай працы поўным камплектам архітэктурна-тэхнічнай праектнай дакументацыі на ўсю будоўлю. Выканаў яго калектыў праекціроўшчыкаў прадпрыемства „Miastoprojekt-Białystok“ пад кіраўніцтвам мгр арх. інж. Яна Кабаца. Грамадскі камітэт пабудовы Музея заплаціў за гэтыя некалькі тамоў чарцяжоў, падлікаў і апісанняў 4 мільёны 500 тысяч злотых. Не мала, праўда, але планы гатовы — цяпер толькі будаваць!

**„Н“:** — А ці будуецца?

**К. М.:** — Ужо выкананы забяспечваючыя працы на аб'екце — працаёмкія, цяжкія земляныя і бетонныя. Унутры будынка разабралі непатрэбныя сценкі і перагародкі, цэглу з іх выкарысталі на замураванне лішніх аконных і дзвярных адтулін. Вынялі непрыдатныя старыя спарахнелыя аконныя рамы і ўставілі новыя вокны, яны ўжо зашклёныя. Ва ўсім будынку паставілі стальную канструкцыю, на якой кладзецца жалезабетонная столь, будуць ставіцца патрэбныя сценкі. Дзеля забеспячэння аб'екта стараемся як мага хутчэй ачысціць яго дах ад

(Працяг на стар. 4)

© PDF: Kamunikat.org 2023 © PDF: Kamunikat.org 2023

© PDF: Kamunikat.org 2023 © PDF: Kamunikat.org 2023

(Працяг са стар. 1)

# З БУДОВЫ МУЗЕЯ

іржы і памаляваць супрацькаразійнымі фарбамі. З усяго відаць, што перад заканчэннем будаўнічага сезона аб'ект будзе падрыхтаваны да працы зімой у яго сярэдзіне.

**„Н“:** Хто выконвае ўсе гэтыя фаховыя работы?

**К.М.:** Будаўніча-мантажнае аддзяленне Ваяводскага саюза сельскагаспадарчых кааператываў і выконвае пакуль што вельмі добра, старанна.

**„Н“.:** А ці ёсць чым плаціць?

**К. М.:** Дагэтуль у нас было на рахунку каля 9 мільёнаў злотых. Сума, здавалася б, вялікая, але на сённяшнія цэны, асабліва ў будаўніцтве, гэта надта ж сціплыя сродкі. На праектную дакументацыю, дагэтуляшнія работы пайшло многа, засталося ўсяго паўтара мільёна злотых і яны ў бліжэйшым часе будуць выкарыстаны. Уся надзея ў нашых ахвяравальніках з Польшчы і з-за мяжы, спадзяемся таксама дапамогі з боку беластоцкага ваяводы і начальніка горада Гайнаўкі, якія дагэтуль дапамагалі нашай будоўлі. Вельмі патрэбны грошы, але і праца таксама...

**„Н“.:** У грамадскім пачыне таксама нешта робіцца?

**К. М.:** О, вельмі многа! Работы ў грамадскім пачыне пры пабудове Музея заініцыявалі настаўнікі і вучні Гайнаўскага беларускага ліцэя і Гайнаўскага аб'яднання прафесіянальных школ, гайнаўскі актыў БГКТ, асабліва члены праўлення Гарадскога аддзела БГКТ на чале з І. Якімюком, гурткі БГКТ у Дубінах і самадзейнікаў, славутых „Дубіноў“ на чале з П. Скепкам, рабочыя і працаўнікі адміністрацыі гайнаўскіх прадпрыемстваў і ўстаноў. Камітэт пабудовы асабліва ўдзячны працаўнікам Гайнаўскага аддзялення Ваяводскага прадпрыемства цеплавой энергетыкі на чале з інж. Віктарам Кірылюком. Яны вельмі ахвярна і многа ўжо працавалі на будове і абяцаюць далейшую дапамогу. Зроблена ў грамадскім пачыне шмат: падчас земляных і бетонных прац, пры забеспячэнні будынка, упарадкаванні і нівеліроўцы ўсяе пляцоўкі, падвозцы жвіру і іншых працах. Але работы яшчэ вельмі-вельмі многа і кожная пара рук нам надта патрэбная. Добра было б, каб сяляне з наваколля Гайнаўкі, асабліва з Чыжоўскай гміны, падвезлі нам жвіру са сваіх жвіроўняў, а сяляне з Нараўчанскай гміны перавезлі з ляўкоўскай цагельні на будову вельмі патрэбную цэглу.

Камітэт пабудовы Музея сардэчна дзякуе за ўзносы і ахвяраванні нашым краёвым і замежным ахвярадаўцам, за грамадскую працу на аб'екце і просіць далейшай дапамогі ў гэтай справе ўсіх нас, беларусаў. Вельмі пажадана, каб як мага болей людзей уступала ў члены Грамадскага камітэта пабудовы Музея, каб кожны член БГКТ стаў членам Грамадскага камітэта пабудовы Музея.

**Размаўляў М. Гайдук**

# НАРОДЖАНАЯ СЛОВАМ

(Працяг са стар. 1)

выступіла ў першай ролі ў камедыі „Вінаградная гронка“, з якой Паўлы стартавалі ў аглядзе. Потым я пачала памалу сама рабіць тэатр у Паўлах“.

І Аляксей Максімюк і Сяргей Філіпюк — абодва былі з Паўлаў. Сяргей потым пайшоў на дырэктара школы ў Рыбалы і там у далейшым з няспыннай для яго энергіяй дзейнічаў на беларускай ніве. Абодва яны не жывуць. Сяргей памёр молада і гэта была вялікая страта для Беларускага таварыства і яго дзейнасці.

А Валя Мароз 8 гадоў працавала ў Паўлах і пастаянна працавалі там тэатр дарослых і тэатр дзіцячы, вакальны калектыў дарослых і вакальны калектыў дзіцячы. Паўлаўскі дарослы тэатр у той час праславіўся далёка за межамі Беласточчыны вельмі моцнымі пастаноўкамі на ваенныя тэмы. Можна сказаць, што гэта былі пастаноўкі антываенныя. Гэта быў магутны кліч за мір і супраць вайны. Пашыралася нават апінія, што тэатр у Паўлах спецыялізуецца ў ваенных п'есах. Яны паставілі па-беларуску (у перакладзе Валі) „Немцаў“ Л. Кручкоўскага і таксама па-беларуску (па сцэнарыю Валі) п'есу па кнізе М. Шулецкай (варшаўскай пісьменніцы) „Стаптаная зямля“, пра трагедыю беларускай вёскі Райск.

— Памятаю, якое вялікае ўражанне зрабіла ваша пастаноўка аб Райску.

— Я і сама гэта помню. Бо і такі час тады быў дзіўны. Я нарадзіла якраз Юру і прывезла яго дадому. Адбываліся хрысціны. А мне трэба было ехаць на ваяводскі агляд. Трэба было ехаць! Я пакінула хрысціны і разам з мужам мы паехалі ў Беласток. Памагла мая мама. Яна асталася з дзіцём і госцьмі.

Тут хачу сказаць, што муж Валі, Аркадзь Мароз у той час таксама выступаў у пастаноўках жонкі. Ён вельмі добра іграў свае ролі.

Пасля Паўлаў чатыры гады Валя працавала ў Заблудаве і адсюль яшчэ два гады ездзіла ў Паўлы на рэпетыцыі тэатра і вакальнага калектыву.



Дыплом за чарговы агляд уручае Мікалай Самоцік.

Гаворыць, што Мікалай Самоцік пастараўся звязаць яе з „Васілёчкамі“. Сяргею Лукашуку, творцы „Васілёчкаў“, патрэбны быў канферансье для іх шматлікіх канцэртаў. Валя да гэтай ролі падыходзіла.

— Валя, так многа калектываў у нас, ці важны канферанс'е ў калектыве?

— О, яшчэ як! Ад канферанс'е залежыць увесь канцэрт. Я як канферансье мушу прыстасаваць свае словы да ўрачыстасці, да сітуацыі ў краіне, да песні, да ўдзельнікаў і да слухача.

— Я, калі слухаю, як ты вядзеш канцэрт, думаю, што ты гаворыш усё адразу „з галавы“.

— Так павінна быць, але ўсё прадумана, паўторана, усё помніцца. З мяне часта ў хаце смяюцца, што я сама з сабой гавару. А я проста рыхтую канферансье. Бо я сабе загадваю: мушу быць лепшая, чым іншыя, — і шукаю словы, прыёмы ды і гумар патрэбны і да сэрца трэба сказаць, каб слухача ўзяць. Памятаю, мы выступалі ў Сопаце. Я выйшла і сказала па-беларуску: „Мы прыбываем да вас ад шумлівых дубоў Белавежскай пушчы, ад ціхіх вёсак беларускай Беласточчыны, ад маляўнічых лугоў ракі Нарвы...“ Уся Лясная опера паднялася на ногі і апладзіравала.

У „Васілёчках“ спяваць — вялікі гонар. Гэты наш рэпрэзентацыйны хор стаў сапраўдным веліканам. Валя сустрэла тут слаўных салістаў Ананія Ясюка і Юрку Гаўрылюка, сустрэла заслужаных харыстаў, якія ад першага арганізацыйнага сходу ўжо 23 гады не адступіліся ад роднай песні. Сама яна цяпер спявае з хорам некаторыя песні сола і проста не можа не гаварыць пра „Васілёчкі“.

Працуе ў школе № 2 у Бельску ў святліцы. Тут разгарнула шырокую працу з гарцэрамі. Ужо 22 гады яна інструктар ЗГП. Праз Бельскі гуфец ЗГП навязала плённыя кантакты з Гроднам. Вядзе шырокі і цікавы абмен маладзёжных мастацкіх груп. А створаны ёю гарцэрскі школьны калектыў „Вясёлыя ноткі“, у рэпертуары якога многа рускіх і савецкіх песень, выступаў у Гродне і вядомы ў цэлай нашай краіне. Як інструктар ЗГП Валянціна Мароз выхоўвае моладзь у духу любові і пашаны да сваёй краіны — Народнай Польшчы і да вернага нашага прыяцеля —

ДА 100-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ АЛЕСЯ ГАРУНА

# ЛЮБЛЮ І Я СКЛЯПЕННЕ ЗОР

22 ліпеня 1920 года памёр у Кракаве Алесь Гарун. Памёр ад тыфу, пахаванне меў хуткае, казённае, на вайсковых могілках. Для тых, што яго хавалі, быў чужынцам, які прыблукаўся ў колішнюю сталіцу Польшчы і Беларусі, разам з адступаўшым пад напорам Чырвонай Арміі войскам Пілсудскага.

Ёсць у Гаруновым лёсе нейкая балючая нязДзейсненасць, недахоп вонкавай завершанасці ці мо самаапраўдання. І ёсць шмат невядомага, што, мабыць, назаўжды пакрылася пылам гісторыі. Пані гісторыя не песціла Гаруна падчас яго жыцця і не паклапацілася занадта, каб хаця ў невялічкай долі змякчыць сваю непрыхільнасць пасля ягонай смерці. Думаю, што дарэчы будзе прыгадаць на гэтую ўгодкавую акалічнасць, хто такі Алесь Гарун, і чаму беларусам нельга пра яго забыць. Пры ўсім гэтым адчуваю пэўную няёмкасць з-за аднае такое прычыны, якая, магчыма, камусьці пакажацца надта ж надуманай, штучнай. Справа ў тым, што пішу гэты тэкст, пачарпнуўшы фактаграфічны матэрыял з гісторыі беларускай літаратуры, напісанай не беларусам, а шатландцам, прафесарам Ліверпульскага універсітэта Арнольдам мак Мілінам. Лёс і творчасць беларускага паэта ўсё яшчэ чакаюць адкрыцця самімі беларусамі.

Алесь Гарун (сапраўднае прозвішча Аляксандр Прушынскі) нарадзіўся 11 сакавіка 1887 года ў Мінску, у сям'і рамесніка. Сям'я жыла бедна, але бацькі былі пісьменныя, так што Гарун ужо ў пяць гадоў мог чытаць па-польску і па-руску. Пасля заканчэння рамесніцкага вучылішча ў 1902 годзе, Гарун працаваў у сталярных майстэрнях і на мэблевай фабрыцы ў Мінску. У 1904 г. ён звязаўся з групаю эсэраў, якая сярод студэнтаў і рабочых распаўсюджвала рэвалюцыйную літаратуру. У 1907 паліцыя захапіла яго пры станку нелегальнай друкарні і заключыла ў турму. Зняволенне аказалася зваротным пунктам у жыцці А. Гаруна.

Творчае дараванне Гаруна праявілася досыць рана. Вядома, што яшчэ хлапчуком ён напісаў некалькі вершаў на рускай мове, аднак яны не захаваліся. Недзе ў 1903 ці 1904 ён адкрыў для сябе беларускую літаратурную мову, натрапіўшы на стары, зачытаны экземпляр „Гапона“ В. Дуніна-Марцінкевіча. Перад сваім турэмным заключэннем ён мог пазнаёміцца з распаўсюджванымі нелегальна вершамі Цёткі. З 1906 года пачала ўжо выходзіць „Наша ніва“. Ёсць падставы меркаваць, што Гарун ужо тады мог напісаць свае вершы на беларускай мове, якія потым прапалі. Пасля турэмнага зняволення ў Мінску і Вільні, у 1907 г. Гарун быў сасланы на катаргу ў Іркуцкую губерню. Шэсць гадоў ён працаваў цесляром і столярам каля горада Кірэнска. На катарзе ён выпісваў „Нашу ніву“ і адначасова быў адным з яе аўтараў, дасылаючы з Сібіры кароткія апавяданні і артыкулы. Пісаў таксама і ў іншыя беларускія выданні тае пары. Апрача псеўданіма Алесь Гарун, ужываў яшчэ іншыя: І. Жывіца, А. Сумны, Сальвэсь.

Царскі маніфест з 1914 года адносна палітычна зняволеных змяніў крыху лёс Гаруна. Катарга замянялася выгнаннем: ён мог пасяліцца ў любым месцы Сібіры, але не мог вярнуцца ў еўрапейскую частку Расіі. Гарун пачаў працаваць на баржы на Лене, магчыма нат, што простым бурлаком. І вось там на баржы ён канчаткова падрыхтаваў да друку зборнік сваіх вершаў, напісаных на катарзе ў 1907-1914 г.г. Зборнік называўся „Матчын дар“. У гэтым жа самым 1914 годзе ён выслаў яго для выдання ў Вільню. Але зборнік быў надрукаваны толькі ў 1918. У 1915 Гарун змяніў работу: пачаў працаваць на залатых капальнях Бадайбо. Адтуль, пасля Лютаўскай рэвалюцыі, у верасні 1917 года Алесь Гарун вярнуўся ў Мінск. Час, які яму быў яшчэ наканаваны, ён прысвяціў ліхаманкавай, са-



© PDF: Kamunikat.org 2023 © PDF: Kamunikat.org 2023

© PDF: Kamunikat.org 2023

Савецкага Саюза. Яна інакш працаваць не можа.

Некаторыя ўзнагароды і дыпломы: Узнагарода міністра асветы, Сярэбраны крыж заслугі, Сярэбраны знак „Заслужаны для Беласточчыны“, Заслужаны дзеяч культуры, Залатая інструктарская адзнака за заслугі для ЗГП на Беласточчыне, Крыж заслугі для ЗГП, Бронзавы медаль за заслугі для абароны краіны, Залаты знак ТППР, Бронзавы знак — „Прыяцель дзіцяці“, многа дыпломаў горада Бельска і апошні, ад 18.I.85 — старшыні Гарадской рады нарадовай і начальніка горада Бельска з сардэчнай падзякай за працу, дадзены ў дзень 20-годдзя „Васілёчкаў“, і інш.

Валя паведаміла мне, што дыпломную працу аб „Васілёчках“ на культурна-асветнай студыі ў Беластоку піша Эля Нікіцюк, працаўнік гарадской бібліятэкі ў Бельску. Так. „Васілёчкі“ — гэта ўжо гісторыя, аб якой пішуць дыпломныя працы. Гэта гісторыя багатая, але таксама і сённяшні дзень. Праграма ў „Васілёчкаў“ такая багатая, што яны могуць даць тры поўныя канцэрты, не паўтараючы ніводнай песні.

Крыху да гісторыі, але і да сённяшняга дня належыць культурная дзейнасць Валянціны Мароз — дзяўчыны з беларускай вёскі Дзяніскі ў былым Бельскім павеце. І не выпадкова найвышэйшы творчы ўзлёт на беларускай культурнай ніве звязаны ў яе непасрэдна з узнікненнем Беларускага грамадска-культурнага таварыства і яго 31 годам існавання. Усё гэта наша гісторыя. Хто з нас які след у ёй пакідае? Валя нястомна думае пра будучыню, пра будучую дзейнасць, бо працы многа і трэба працаваць, а кажа ж: „Я не зламся“.

**Вера Валкавыцкая**

# СЯБРЫНА

# КАШТОЎНЫ МАТЭРЫЯЛ

## РАЗМОВА З БАЖЭНАЙ САМАСЕВІЧ

**Міра:** Як жывеш, Бажэна?

**Бажэна:** Як Бог прыказаў. Хата вялікая, куткі завалены кніжкамі, неўзабаве пазбаўлюся з хаты брата (кавалера, зрэшты), які атрымаў новую кватэру. Цішыня. Люблю цішыню. У час навукі ў вышэйшай школе чалавек трохі пашумеў, пагуляў, павучыўся колькі трэба, усе сябры пароз'язджаліся, і цяпер столькі ўсяго, што школа ды дом.

**М.:** Цяпер у цябе канікулы.

**Б.:** Я вельмі перажывала, калі ў чэрвені адыходзіў мой восьмы клас. Я яго вучыла рускай мове тры гады, а выхаваўцам была два. Аж сорамна прызнацца, што не магла знайсці сабе месца. Быццам кавалак жыцця нехта ад мяне адарваў.

**М.:** Ты для мяне — праўдзівая настаўніца, якая жыве ўся праблемамі школы, сваіх выхаванкаў...

**Б.:** Люблю сваю працу, не бачу сябе на іншым месцы. На жаль, у Беластоку, дзе ў мяне свая кватэра, не магу знайсці пастаяннай працы. Працую ўжо чатыры гады. Апрача ўрокаў рускай мовы, займаюся школьным самакіраваннем, эсперантам, падрыхтоўвала калектыў да конкурсу „Колеры дружбы“, да конкурсу аб Заменгофе (адну з вучаніц, хачу пахваліцца, што з майго класа, Рэнату Сурэль, вылучылі ў конкурсе „100 год эсперанта“). Да таго розныя школьныя ўрачыстасці, заклікі, падрыхтоўка моладзі да конкурсаў рускай мовы, вечароў паэзіі, рускай і савецкай песні... Вядома, калі чалавек яшчэ адзінокі, не мае сям'і, у яго „найбольш“ часу і даручаюць яму безліч розных заданняў. Я свае ўсе выконвала з радасцю. Не заўсёды аднак школьнымі ўладамі заўважаецца, што сапраўды робіць малады настаўнік. У маёй школе многа маладых людзей, якія многа стараюцца і працуюць грамадска, а кіраўніцтва прывыкла заўважаць



толькі старэйшых, якія некалі нешта зрабілі і цяпер „едуць“ на сваёй апініі. А маладому чалавеку, які толькі пачаў працаваць, патрэбна перш за ўсё падтрымка, дапамога, проста добрае слова. А тут і дробныя недахопы заўважаюцца, і часам выходзяць з іголкі вялікія вілы. Маладога настаўніка пускаюць адразу на глыбокую ваду, да працы з вельмі далікатным і каштоўным матэрыялам — дзіцячымі душамі і характарамі. Маладыя прыходзяць з ведамі, добра падрыхтаваныя, поўныя энтузіязму да работы, але, вядома, без практычнага вопыту. Калі сутыкнешся з „укладамі“, гэты цэлы энтузіязм астыне. Падобная сітуацыя ў кожнай школе.

**М.:** Але ў настаўніцкім калектыве ты знайшла людзей, якія табе дапамаглі.

**Б.:** Так. Люблю людзей з фантазіяй, з уздымам, якія безупынна шукаюць, дзейнічаюць, не сядзяць на адным месцы. Паслядоўна патрабуючых не толькі ад іншых, але перш за ўсё — ад сябе. Стараюся мець зносіны з такімі людзьмі. У такіх кантактах нараджаецца многа думак і прапаноў. Гэта дазваляе забыцца аб прыгнятаючай рэчаіснасці, нашых штодзённых праблемах. Усведамленне таго, што зрабілі мы каму нешта добрае, нясе задавальненне і радасць.

**М.:** На тваёй паліцы з кніжкамі я бачу бюст Леніна.

**Б.:** Ужо дзесяць год я — член партыі, яшчэ з ліцэя. І таму я асабліва патрабавальная да сябе.

**М.:** Ты сёння нейкая сур'ёзная...

**Б.:** Сёння з прыемнасцю я спякла пірог з суніцамі, які ўсім смакаваў!

**М.:** Пачынаецца сталае жыццё і прыемнасці сталай жанчыны, Бажэна!

Гутарыла:
**Міра Лукша**

### ПРЫКАЗКІ

Касі, каса, пакуль раса: раса далоў — каса дамоў.

* * *

Маліна не тое, што дзяўчына: чым болей спее, тым смачней бывае.

* * *

На добрую зямлю добрая і надзея.

маадданай дзейнасці ў грамадскім і палітычным жыцці. Рэдагаваў газету „Беларускі шлях“, як член шматлікіх камітэтаў і камісій намагаўся здзейсніць свае выпеставаныя ў Сібіры мары-спадзяванні на грамадскія і палітычныя змены ў Беларусі. На гэта аднак ужо не хапала ні сіл, ні надарванага на катарзе здароўя. Летам 1920 года, у самы разгар польска-савецкай вайны, калі часці арміі Пілсудскага пакідалі Мінск, пакінуў яго і Гарун. Пакінуў яго ўжо хворы тыфам, эпідэмія якога шалела ў згаладнелым, знішчаным вайною горадзе. Кракаў стаў Алесю Гаруну апошнім прыпынішчам.

Так у кароткім і сухаватым апісанні выглядаюць факты вонкавай біяграфіі Гаруна.

Алесь Гарун, амаль равеснік Янку Купалу і Якубу Коласу. Максім Багдановіч быў маладзейшы ад яго на чатыры гады і дзевяць месяцаў. Купала, Колас, Багдановіч. Колькі ж разоў ставіліся побач гэтыя імёны. Гонар беларускай літаратуры. І колькі ж разоў не хапала месца Гаруну побач з імі: Купала, Колас, Багдановіч, Гарун.

Літаратурная спадчына Гаруна невялікая сваім аб'ёмам. Апрача вершаў са зборніка „Матчын дар“, ён напісаў некалькі апавяданняў, некалькі п'ес для дзяцей, засталася пэўная публіцыстычная спадчына. Аднак тое, што складаецца на ягоны пропуск у славу, знаходзіцца ў зборніку „Матчын дар“. Як у выпадку Багдановіча і ягонага „Вянка“. І яшчэ адно падабенства, калі не лёсаў, то прынамсі біяграфій тых двух паэтаў: Гарун, як і Багдановіч, амаль усё сваё спелае жыццё пражыў здалёк ад Беларусі. Але ў іхнім далейшым, пажыццёвым лёсе наглядаецца цалкавітае несупадзенне. Слава аднаго і забыццё другога. Забыццё?

Не мне тут забаўляцца ў літаратурнага крытыка і даказваць, які ж гэта добры паэт той Гарун. У адносінах да паэзіі джала мае крытычнае праніклівасці замацаванае на кепска абгрунтаваным у навуцы прынцыпе адбору: гэта мне падабаецца — гэта мне не падабаецца. І хаця адчуваецца ў гэтым прынцыпе нешта дыялектычнае, то ўсё ж такі ён не вывядзе мяне ў літаратуразнаўцы. Хтосьці іншы павінен узняцца вышэй і вярнуць беларускай літаратуры Гаруна, ягоную паэзію. Якісьці важны чалавек павінен сказаць сваё важнае слова.

Я скажу так: паэзія Гаруна цудоўная. Цудоўны свет уяўлення, думкі-дыяменты, краскі жыцця, крыштальная песня-звон. Мабыць, мае рацыю вышэй згаданы прафесар-шатландзец, калі піша, што Гаруну крыху не хапае „тэхнічнага“ майстэрства Багдановіча. Але ж ён мае таксама рацыю, калі піша, што Гарун буйна папаўняе гэты „недахоп“ прыроджаным, спантанным адчуваннем мелодыі беларускай мовы. Недахоп кананічнай формы верша ў зборніку цераз край папаўняецца ўласнымі вершаскладальнымі вынаходствамі паэта.

Люблю і я скляпенне зор,
Люблю зямлі прасцяг,
І роўны луг, і ўзгібы гор,
І шум лясны, і звяг.
Люблю жыццё, а ў ім людзей
І кшталты іхных душ;
Люблю вянкі плясці з надзей, —
А не паэт. — Чаму ж?

Зборнік „Матчын дар“ пачынаецца вершам „Людзям“ — своеасаблівым уступам-веравызнаннем паэта. Я перапісаў вышэй яго пачатак. Далей вершы размеркаваны на тры часткі: „Роднаму краю“, „На чужыне“, „Прыявы родныя“. Лірыка Гаруна глыбока суб'ектыўная, навеяная настроямі журбы і тугі па роднаму краю. Гэта зразумела. Але паэт ніколі не дазваляе сабе апусціцца ў слязлівую расчуленасць над уласным лёсам. Як жа карысна гэтая прыкмета адцяняе Гаруновую паэзію на фоне тагачаснага, амаль агульнага ў беларускай літаратуры ляманту-бедавання. Як спелыя вершы Купалы і Коласа. Як вершы Багдановіча. А калі запытаеце, як там справа з народнасцю гэтых вершаў, з любоўю да Радзімы, з памкненнямі да вызвалення з сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, словам, з усім тым, без чаго немагчымы навуковы слінапад, калі аналізуецца беларуская літаратура тае пары, то скажу вам, што ўсё там, як трэба. Усё там знойдзеце, і многа чаго яшчэ. Не адну дысертацыю можна было б напісаць. Тады чаму ж ён для нас не паэт?

У гісторыі беларускай літаратуры, той, што ў зялёным томе, выдадзеным у 1977 годзе Акадэміяй навук БССР на рускай мове пра Гаруна гаворыцца. Прывяду тут 50 прац. з надрукаванага: „...поэт-лирик, страстный, темпераментный, вдохновенный. Он обладал чистым и непосредственным голосом. О легкости и мелодичности стиха, тщательной его шлифовке, новом и очень изящном сцеплении рифм у Гаруна говорил в свое время М. Богданович, подчеркивая оригинальность, неповторимость его художественного почерка. Следует, однако, сказать, что судьба А. Гаруна сложилась драматично. (...) Гарун не смог найти правильного пути, не разобрался в противоречивых событиях предоктябрьских лет, не понял социалистической революции“. (стар. 451, 452). Што ж, шкада. Калі б не тая катарга і калі б ён разабраўся... Можа і мы б хутчэй разабраліся і знайшлі дарогу да Гаруна. І мне хочацца пажадаць гэтага ўсім чытачам „Нівы“. Няхай і вам, сябры, на нябесным скляпенні беларускай літаратуры, заміргае чыстая, яркая зорка Алеся Гаруна.

**Іван Максымюк**



© PDF: Kamunikat.org 2023

© PDF: Kamunikat.org 2023 © PDF: Kamunikat.org 2023

(Працяг са стар. 2)

### НА МЯЖЫ

Бандары да мяне. Як Швед, так і я згадзіліся на гэты візіт. Калі гэта ўсё здарылася, дакладна не памятаю. Мог гэта быць 1963 або 1964 ці нават 1965 год. Памятаю дакладна, што польскія аўтары прыехалі машынай маркі „актавія“, гэта, наколькі не памыляюся, была папярэдніца сёньняшняй „шкоды“. У Бандары прыехалі З. Федэцкі і Э. Стахура пасля візіта ў Віктара Шведа. Э. Стахура быў выразна перапіты і болей аб нічым не гаварыў, як толькі аб новай выпіўцы. Гарэлка ў мяне была. З. Федэцкі выразна сябе кантраляваў і піў мала. Не кантраляваў сябе Стахура — піў многа і безразумна. Калі ўжо моцна напіўся, сказаў мне, што яму ў Бандарах падабаецца і што ён хацеў бы наняцца ў нейкага мясцовага гаспадара на работу. „Tylko pamiętaj o tym, — сказаў Стахура, — żeby to był kmieć, który nie żałuje wypić ani sobie ani gościowi“. Я адказаў Стахуры, што ў нас гаспадары наогул бедныя і што ніводзін з іх не наймае сезонных работнікаў. На гэта Стахура мне адрэзаў: „No to co k..., żaden z nich nie rozumie, iż to, że będzie u nich pracował pisarz pozwoli mu przez stulecia opowiadać o tym wnukom i prawnukom?“ Я, зразумела, з нікім з суседзяў не гаварыў і нікому з іх не прапанаваў Стахуру як парабка, бо не вельмі верыў у тое, што Стахура надаецца да саліднай работы. На другі дзень мае госці выехалі і прызнаюся, гэта мяне вельмі ўцешыла. Пасля, калі я сустракаў маіх гасцей у Варшаве, яны да мяне ўвогуле не адзываліся. Можа, мяне забылі, або не забылі, але гаварыць не хацелі. Бог з імі. Праз нейкі тыдзень я сустрэўся з В. Шведам. Мне ён расказаў цудоўную гісторыю аб тым, як Стахура, гасцюючы ў яго, напавал напаіў сабаку Віктаравай сястры. Якім спосабам? Няхай раскажа сам В. Швед. Верце мне, што гэта была гісторыя цудоўная. Думаю, што многія энтузіясты Стахуры перастануць яму маліцца, калі В. Швед раскажа гісторыю, звязаную са Стахурам і сабачкам.

**А. Барскі**


„Ажаніся, весяліся“.

# Сто хвароб і яшчэ адна: СЛАБАСЦЬ

У нядзелю 31 мая ў будынку ля вуліцы Варшаўскай у Беластоку панаваў сумны настрой: глядзельная зала была пустая, сям-там сядзела некалькі групак асоб, якія чакалі пачатку агляду беларускіх тэатральных калектываў. Як было відаць — усе добра знаёмыя, тыя, што заўсёды прыходзяць на беларускія культурныя імпрэзы. Чакалі вельмі цярпліва, не пазіраючы на ручныя гадзіннікі.

І вось прыехалі акцёры-аматары з Бельска і Паўлаў. Бельскі „Парнас“, вядома, прыцягнуў да сябе ўвагу бадзёрасцю, з песняй увайшоўшы ў залу. Але ў зале аціх, угледзеўшы ўсяго жменьку гледачоў, нешта каля трыццаці чалавек. „Парнаснікі“, ясная справа, не маглі паўстрымацца, каб не сказаць трохі крытыкі ў адрас арганізатараў гэтага агляду. Не дзіва, калі ведаць, што і самі яны даведаліся пра агляд усяго тры дні назад, у чацвер. Які ж тады мог быць час на падрыхтоўку і рэпетыцыі? Тым больш, што ўдзельнікі „Парнаса“ не ўсе пражываюць на месцы, некаторыя — у навакольных вёсках. Значыць праблема з даездам. Напрыклад, уласнымі грашыма заплацілі паўтары тысячы злотых за таксі, каб толькі змог у пару прыехаць разам з імі адзін іх калега. Усе прыехалі, аднак ніхто з імі — з Бельскага аддзела Беларускага грамадска-культурнага таварыства. У гэтым аддзеле, як можна зразумець, нікога не цікавіць лёс „Парнаса“, яго ўдачы і няўдачы. А жыві ты сабе, „Парнасе“, як хочаш і дзе хочаш! Ці і ў іншых аддзелах такое ж наплявацтва? Аж не верыцца...

Ну, але агляд, нарэшце, пачаўся, так неяк пад адзінаццатую гадзіну дня. Выступілі тры тэатральныя калектывы: „Парнас“ са спектаклем „Вясёлыя жабракі“ (гэта што: намёк на сітуацыю ў нашым тэатральным руху?), калектыў з Паўлаў паставіў п'есу Сакрата Яновіча „Сто хвароб на аднаго чалавека“ (таксама някепскі намёк!), і беластоцкі калектыў з пастаноўкай „Ажаніся, весяліся!“ паводле „Прымакоў“ Янкі Купалы. Не з'явіўся калектыў з Грабянёў, што на Дуброўшчыне. Затое Паўлы склалі яшчэ адзін калектыў, які падрыхтаваў спектакль паводле творчасці Васіля Быкава, названы „Было гэта ў сорак першым“. На жаль, не выступілі яны з ім, бо адзін выканальнік ролі не з'явіўся (можа, не меў паўтары тысячы на таксі?). Як кажуць людзі, бяда часам дабром выходзіць: стаўшы як бы лішнімі, тыя паўлаўцы парассядаліся ў зале, адразу ўчыніўшы някепскі тлум, пры тым культурны, з некаторым веданнем сцэнічнага майстэрства...

„Парнас“, хоць і бягом, зусім добра выступіў, спектакль не




# ПЕРАСІЛЕННЕ

**На жаль, летапісы не данеслі да нас сцэны ўзвядзення Ягайлы-Якава на княжацкі пасад у Вільні пасля смерці яго бацькі Альгерда-Аляксея. Таму невядома, што дзеялася ў вялікай рыцарскай зале на віленскім замку ў той майскі дзень 1377 года, калі Ягайла ўздзяваў на сваю галаў вялікакняскі каўпак. Паводле падзей, якія наступілі потым, можна меркаваць, што ўрачыстасць адбывалася не ў прысутнасці ўсіх, каму на ёй належалася быць, а хто і быў, далёка не кожнаму яна была па сэрцы.**

Нездарма прыказка кажа: няма горшага ката, як брат на брата. Найболей і самых зацятых ворагаў меў Ягайла сярод сваіх жа братоў па бацьку, сыноў па першай жонцы княгіні Марыі Яраслаўне, дачцэ князя віцебскага. Першы Альгердаў сын, у час смерці бацькі князь полацкі, Андрэй лічыў, што яму належыцца вялікакняскі каўпак, падтрымлівалі яго родныя браты: князі кіеўскі Уладзімір і бранскі Дзмітры, да іх прыхіліўся таксама сын па другой жонцы, княгіні Ульяне Аляксандраўне, дачцэ князя цвярскога, — князь ноўгарад-северскі Карыбут-Дзмітры. Іншыя або былі на баку Ягайлы, як Скіргайла (потым, пасля хрышчэння — Іван), ці Свідрыгайла-Баляслаў, або адносіліся да гэтага абыякава. Ягайлу ж найважнейшае было тое, што за ўзвядзеннем яго на віленскі вялікакняскі пасад былі Кейстут і яго сын Вітаўт-Юрый — самыя аўтарытэтныя дзяржаўныя дзеячы пасля смерці Альгерда. Мабыць, Кейстут тады быў упэўнены, што Ягайла будзе паслядоўным прадаўжальнікам палітыкі і паводзін свайго бацькі. І спачатку ўсё так выглядала.

Крыжакі заўсёды пільна сачылі за падзеямі ў свайго ўсходняга суседа і не праміналі ніякай нагоды, каб яго паслабіць ці зваяваць. Тым часам паміж Ягайлам і Андрэем полацкім разгарэлася ў 1377 г. адкрытае змаганне за віленскі пасад. Андрэй не патрапіў ці не змог сабраць адпаведнай вайсковай сілы, барацьбу прайграў і падаўся ў Маскоўскае княства. Атрымаўшы адтуль вайсковую дапамогу, усчаў у 1379 г. адкрыты наступ супраць свайго брата. Ягайла апынуўся ў цяжкім становішчы, бо на бок Андрэя стаў не толькі родны яго брат Дзмітры, які без бою здаў яму свае крэпасці Старадуб і Трубчэўск, а сам з сям'ёй і дваром падаўся ў Маскву. Андрэя хацелі мець вялікім князем таксама некаторыя іншыя князі, што сядзелі на ўсходніх беларускіх землях. Асабліва ж бурліва супраціўлялася Ягайлу насельніцтва Полацка — тады найбольшага і самага заможнага горада ў Вялікім княстве.

Вельмі папулярны цяпер у Савецкай Беларусі гісторык і публіцыст Канстанцін Тарасаў піша: „Чаму ж падтрымлівалі князя Андрэя палаччане, чым гэта не дагадзіў ім „вялікі князь Літвы, Русі і Жмудзі“? Галоўнай прычынай стала самаўпэўненасць Ягайлы, які не палічыўся з рэлігійнымі пачуццямі і традыцыямі полацкага насельніцтва. Прагнаўшы ў 1377 годзе князя Андрэя, ён назначыў намеснікам у Полацк свайго роднага брата Скіргайлу. Той, у адрозненне Андрэя, не прымаў хрышчэння, быў паганінам. Наколькі гэты крок вялікага князя абразіў палаччан, сведчыць тое, што раз'юшаны натоўп пасадзіў



© PDF: Kamunikat.org 2023 © PDF: Kamunikat.org 2023

© PDF: Kamunikat.org 2023

## БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

### ЗАХАДЫ ПРЫ НЯБОЖЧЫКУ

Я ўжо сказаў, што ў мінулым беларусы верылі ва ўздзеянне памёршых на жывых. У пахавальным рытуале выступае нямала фактаў, якія сведчаць аб тым, што жывыя стараюцца ў многім „дагадзіць" пакойніку. І так, для прыкладу, жанчыны, якія мылі і апраналі памёршага, а займаліся гэтым жанчыны ў старэйшым узросце, — вельмі часта паводзілі сябе так, як бы памёршы чуў, ведаў, што яны гавораць і што робяць. Вельмі часта звярталіся да нябожчыка са слоўнымі тырадамі. Аўдоцця Баршчэўская з вёскі Бандары характарызуе гэту з'яву наступным чынам: „Ну, пытаеш, як яно было пры пакойніку. То табе скажу, што былі разны бабы. Не, не кажда адзывалася да нябожчыка, некаторы маўчалі, але былі і такіе, што бывало так разгаворыцца з памершым, што, слухаючы, здаецца ўжэ ўсім, што пакойнік усё чуе і панімае. Ну што гаварылі? А хоць бы о так: „Ну, Міхаську, падніми крышку ручку, каб маглі мы табе яе добра памыці. Вазьмі, Міхаську, крышку прыпадніміся або паверніся, каб можно было табе памыці плечыкі". Мусіш яшчэ ведаць і аб тым, што вельмі часто бывало цело апрученее і вельмі цяжко на его нацягнуць адзежу. То ужэ, значыцца, бабы такому гаворат: „Загні крышку ручку, або падніми ногу. Зараз цябе харашэнько адзягнем, каб ты быў харошэнькі, каб Богу ў небі панаравіўсе. Ну, яшчэ крышку пацерпі, зараз, зараз ужэ будзеш адзягнуты. Пацерпі яшчэ крышку, пацерпі, зараз усё скончым і сабе адпачнеш". Ну, чом так гаварылі да нежывого? Бо бачыш, калісьціка людзі верылі, што пакойнік усё бачыт і усё чуе.

А што я яшчэ магу сказаць? Нічого, што я, дурная баба, магу знаці, калі я гоздзіка не знаю навет, што значат тые буквачкі, каторы ты ўсё запісваеш і запісваеш у гэтай сваёй цітрадзі".

Іншыя інфарматары пацвярджаюць агульны сэнс выказвання Аўдоцці Баршчэўскай. Гавораць яны, што, апранаючы нябожчыка, стараліся, каб вопратка і асабліва абутак не былі цесныя, бо нябожчыку было б вельмі нязручна хадзіць у такой вопратцы і абутку „на другім свеце". З думкай аб выгадзе нябожчыцам абавязкова падвязвалі панчохі, кіруючыся меркаваннем, што, непадвязаныя, яны безупынна абсоўваліся б у час шпацыраў памершай па раі. Цэлы памёршых маладых людзей найчасцей апраналі ў шлюбную вопратку, а малых дзяцей у тую, якую мелі на сабе ў час хрышчэння.

Асобам, якія карысталіся пры жыцці кульбакай або акулярамі, абавязкова ўкладвалі гэтыя рэчы ў труну, думаючы, што пасля смерці будуць ім неабходныя ў такой самай ступені, як пры жыцці. Цікава, што заўзятым курцам жонкі абавязкова клалі курыва ў кішэню вопраткі, зразумела з той мэтай, каб мог імі карыстацца пасля смерці.

Характэрнай з'явай з'яўляецца тое, што нябожчыкам абрэзвалі ногці і клалі іх у труну. Наогул інфарматары не маюць строга акрэсленай інтэрпрэтацыі гэтага факта. Толькі рэдкія з іх, да такіх належаў і жыхар вёскі Адрынкі Сямён Кулеша, даказвалі, што нябожчыку трэба будзе караскацца па высокай гары, каб дабрацца да неба. Здзёршы ногці, якія нябожчык мае на руках, скарыстае тады з запасных, паложаных радней у труну. У адной з казак, запісаных М. Федароўскім на тэрыторыі ўсходняй Беласточчыны, выступае досыць нечаканая інтэрпрэтацыя гэтага факта. У казцы гаворыцца аб тым, што Бог, прыняўшы нябожчыка, абавязкова гляне на яго руку і спытае, дзе падзеліся яго ногці. Тады нябожчык выцягне з-за пазухі абрэзаныя ногці і скажа: „А вось тут".

**А. Баршчэўскі**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка, маю клопаты з дачкою. Ужо ёй 27 гадоў споўнілася, і мне б хацелася ўжо, каб выйшла яна замуж, каб былі ў мяне ўнукі, якіх яшчэ паспела б я мо крыху падгадаваць, ды і наогул хацелася б, каб дачка была шчаслівая. А ў яе гэта неяк не выходзіць.

І цяпер штораз часцей прыходзіць мне ў галаву думка, што можа я тут ва ўсім вінавата. Я старалася выхоўваць дачку па старых прынцыпах, што, маўляў, у ложак з хлопцам пойдзеш, калі стане ён тваім мужам. Старалася растлумачыць ёй, які незайздросны лёс у „паненскіх" дзяцей, якія гадуюцца без бацькі. Заўсёды асцерагала яе перад нейкімі неразважнымі крокамі. І да чаго гэта давяло? Да таго, што фактычна яна засталася адна. Я ўжо нават пыталася ў яе, чаму яна цяпер з нікім не ходзіць, былі ж хлопцы раней, а яна мне адказвае, што былі, але кожны праз нейкі час хацеў зацягнуць яе ў ложак. Калі яна на гэта не згаджалася, то парывалі з ёю ўсялякія сувязі, бо жаніцца ніхто не спяшаўся. Вось так і засталася яна, і думаю, што выйсці цяпер замуж будзе ёй вельмі цяжка. Сэрцайка, ці супакоіш ты хоць крыху матчына сумленне?

**Надзя**

Надзя! Думаю ўсё ж такі, што не твая віна ў тым, што дагэтуль твая дачка не выйшла замуж. Ты як маці паступіла ў адносінах да дачкі вельмі добрасумленна, гаворачы ёй аб тым, як мае быць, а як быць не павінна. Ты ўплывала ёй маральныя прынцыпы, у якіх сама была выхавана. Ты ўжо ведала, чаго не ведала яшчэ яна, і хацела папярэдзіць яе перад небяспекай, якая пагражала б ёй, калі б засталася яна адна з дзіцём. Ты б хацела, каб яе жыццёвая дарога была падаслана ружамі. І можа ў нейкай ступені такая асекурацыйная пастава тваёй дачцэ пашкодзіла. Бо ж у канцы канцоў, калі людзі кахаюцца сапраўды, то няма ніякіх перашкод для іх. І калі твая дачка не захацела ісці ў ложак з адным, другім, трэцім, а яны адразу паадварочваліся ад яе, то нешта тут не так. Значыць, ніхто яе яшчэ не пакахаў па-сапраўднаму. Калі ёсць моцнае каханне, то хлапец ажаніўся б з такой упартай дзяўчынай, хочучы здабыць яе, і з цяжарнай ажаніўся б, у выпадку калі б усё ж аддалася яму перад шлюбам!

Сёння з гэтымі справамі моладзь не робіць такіх праблем, як было калісьці, у часы тваёй маладосці. Мо і шкада крыху тых рамантыкі, але сёння моладзь даспявае сексуальна на многа раней. Зрэшты, сексуальнае выхаванне стаіць на парадку дня, і сёння дзяцей павучаць ужо цяжка. А мо так яно і трэба: каб не было пасля ніякіх непаразуменняў, ніякіх жаляў, ніякіх прэтэнзій, людзі проста пазнаюць адзін другога перад шлюбам. Шкада толькі, што вельмі часта такія паводзіны вядуць да распушчанасці. Паненкі ідуць пад малаток без перабору, а чым гэта часта канчаецца — усе мы добра ведаем.

Думаю, што ўсё ж не твая тут віна. Здаецца, што твая дачка павінна нешта змяніць у сабе, у сваіх паводзінах, у адносінах да свету і мужчын. Павінна быць больш жыццерадаснай і ўпэўненай, а тады ўсё прыйдзе само сабой, і яна перастане быць адзінокай.

**Сэрцайка**

## СОННІК

81

**Палец параніць** — страта; страціць — вялікая страта; пальцы ног — цяжкае падарожжа.

**Паліваць кветкі** — прыемная гульня.

**Палітра** (у мастака) — вясёлая гульня.

**Паліціраваць мэблю** — страта грошай.

**Палка** — удачнае заканчэнне пачатага; біць ёю — бараніся моцна!

**Палкоўнік** — са славай, але ў беднасці.

**Пальмы** — неспадзяваныя перашкоды; вылучэнне ў кампаніі.

**Палова** (ад збожжа) — даб'ешся значнага багацця.

**Паломніцтва** — перамена месца жыхарства; удзельнічаць у ім — неабходна папрáвіць сваю рэпутацыю.

**Палучка** (заработная плата або пенсія) — неспадзяванае шчасце.

**Пальчаткі** — публічнае, грамадскае прызнанне і пашана.

**Паляванне** — неспадзяваны даход; на птаства — няўдачы; з сябрамі — абгаворы; самотнае — шчасце ў латарэі.

**Паляўнічы** — вялікае каханне.

**Памадка** (да малявання губ) — фальш і здрада.

**Памешаным, вар'ятам быць** — па ўласнай віне наклікаць на сябе непрыемнасці; бальніца для памешаных — цябе ашукаюць.

**Памідоры** — патаемныя пажаданні, прага.

**Памілаванне** — шчасце і радасць.

**Пампушкі есці** — інтэлектуальныя прыемнасці; рыхтаваць — інтрыгі.

**Памылка** — сам сабе зробіш шкоду, крыўду.

**Пан** — цябе абразяць.

**Пантофлі** — змена стану; гафтаваць — задавальненне; купляць — сямейныя непаразуменні; хадзіць у іх — спакой; з лямцу (войлаку) — старэчыя гады.

## Komunikat

Główna Komisja Badania Zbrodni Hitlerowskich w Polsce — Instytut Pamięci Narodowej Okręgowa Komisja w Białymstoku prowadzi śledztwo w sprawie zbrodni dokonanych przez hitlerowców na terenie regionu białostockiego, a szczególnie w miesiącach **czerwcu, lipcu i sierpniu 1941 r.**, kiedy to zamordowanych zostało wielu ludzi o poglądach lewicowych, członków partii komunistycznej, organizacji młodzieżowych, związkowych itp.

Wszystkie osoby mogące udzielić informacji na temat wspomnianej zbrodni proszone są o ich pisemne zgłaszanie pod adresem: Główna Komisja Badania Zbrodni Hitlerowskich w Polsce — Instytut Pamięci Narodowej Okręgowa Komisja w **Białymstoku, ul. M. Skłodowskiej-Curie 1.**

## НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

Oddział KPKS w Bielsku Podlaskim w nawiązaniu do notatki prasowej „Usio nie sława Bohu" informuje, że przystanek PKS na żądanie w Bielsku Podlaskim przy ul. Mickiewicza został zlokalizowany tymczasowo. Bowiem w planach rozbudowy miasta w najbliższej przyszłości ruch autobusowy zostanie skierowany na ulicę Gagarina. W związku z tym już w roku bieżącym przystanek PKS przy ul. Mickiewicza będzie przeniesiony na ul. Gagarina i zostanie wyposażony w wiatę przystankową oraz ławki dla podróżnych. Odpadnie przy tym również problem sztucznego tłoku pieszych spowodowanego niewłaściwą lokalizacją dotychczasowego przystanku.

Na zakończenie informujemy, że przy dotychczasowym przystanku ustawione zostaną we wnękach sąsiadujących pawilonów handlowych ławki, co nieznacznie poprawi podróżnym warunki oczekiwania na autobusy.

Bielsk Podlaski, 1987.06.15

Z-ca Dyrektora
inż. Eugeniusz Wesołowski



© PDF: Kamunikat.org 2023

© PDF: Kamunikat.org 2023


# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


**БЕЛАРУСКАЯ КАЗКА**

## ПАКАЦІ-ГАРОШАК

Жыў дзед з бабаю. Былі ў іх два сыны і дачка Палашка. Прыгожыя выраслі сыны — высокія ды стройныя. А дачка — яшчэ прыгажэйшая.

Сыны з бацькам зямлю аралі, збожжа сеялі, гаспадарку вялі і з гэтага жылі.

Аднаго лета ўправіліся яны загадзя з работаю, усё з поля сабралі, звезлі ды змалацілі.

Паглядзеў бацька на няпоўныя засекі ды кажа:

— Вось што, сыны мае любімыя. Збожжа ў нас сёлета не надта зарадзіла. Ці не пайсці вам у заработкі да чужых людзей? Запас бяды не чыніць.

Падумалі браты — і праўда: не шкодзіла б лішні рубель мець у гаспадарцы. За яго можна будзе вясною хлеба прыкупіць, калі свайго не хопіць. Але куды ж пайсці ў заработкі? Скрозь тут бедныя людзі жывуць.

— Схадзіце за пушчу, — раіць бацька. — Можа, там вас хто нойме.

Узялі браты харчоў па торбе і кажуць:

— Калі мы праз тыдзень не вернемся, дык няхай Палашка прынясе нам свежага хлеба.

— А як жа я ведаць буду, куды вам несці? — пытаецца Палашка.

Падумалі браты і кажуць:

— Мы возьмем з сабою куль саломы ды будзем па дарозе церушыць па саломінцы — гэты след і прывядзе цябе да нас.

— Калі так, дык мне не цяжка будзе знайсці вас, — згадзілася сястра.

Сабраліся браты і пайшлі.

Ідуць ды па саломінцы за сабою цярушаць.

Мінулі поле, увайшлі ў цёмную пушчу. А ў той пушчы жыў страшны Цмок з жалезным языком. Убачыў ён, што браты след за сабою пакідаюць, узяў ды перакінуў саломінкі на другую сцежку. А вяла тая сцежка проста да яго касцянога палаца...

Мінуў тыдзень. Не вярнуліся браты. Радуецца бацька:

— Мусіць, яны знайшлі там добрую работу. Занясі ты ім, дачушка, свежага хлеба.

Узяла Палашка хлеба, сёетое да хлеба ды рушыла ў дарогу. Ідзе і ўсё на саломінкі ўглядаецца. Аж раптам бачыць перад сабою палац — з чалавечых касцей збудаваны, чалавечымі чарапамі накрыты...

Спужалася дзяўчына. „Куды я трапіла?“ — думае.

А тут і сам гаспадар выходзіць з палаца — пудзіла паганае.

— А-а, — ухмыляецца ён, — папалася да мяне. Я да цябе даўно прыглядаўся, забраць у свой палац збіраўся. А тут ты і сама прыйшла. Ну, што ж, цяпер забывайся на бацьку, на матку — ідзі да мяне. Будзеш жыць у маім палацы за наймічку. А не захочаш — закіну і твой чэрап на свой дах.

Залілася Палашка слязьмі, ды што зробіш. Не злітуецца паганы Цмок.

Тым часам Палашчыны браты і праўда знайшлі ў аднаго багатага чалавека добрую работу. Згадзіліся рабіць на сваім хлебе. Тыдзень працавалі, а потым бачаць, усе харчы выйшлі. Чакалі, чакалі сястру — так і не дачакаліся.

Прыходзяць браты дахаты і з крыўдай пытаюцца ў бацькі:

— Чаму ты нам, бацька, не прыслаў харчоў?

— Як не прыслаў? — дзівіцца бацька. — Палашка ж панесла вам і хлеб і да хлеба...

— Не, — кажуць браты, — не бачылі мы яе.

Напалохаліся бацькі, бядуюць: „Ці не загінула дзе дачка?“

— Я пайду яе шукаць, — кажа старэйшы брат.

— Ідзі, сынок, — згадзіліся бацька і маці.

Сабраўся ён і пайшоў. Ідзе так пушчай-лесам, бачыць — саломінкі зусім у другі бок павялі. Пайшоў ён па той сцежцы, куды саломінкі вялі, і прыйшоў да касцянога палаца.

Убачыла яго Палашка з акна, выбегла насустрач.

— Ах, братка, ах родны! — плача сястра. — Няшчасная я цяпер гаротніца ды нявольніца...

І расказала яна брату як у няволю да паганага Цмока трапіла.

— Не плач, сястрыца, — суцяшае брат, — я цябе вызвалю.

— Не, братка, не ведаеш ты, з кім справу маеш. Ідзі лепш хутчэй назад, а то Цмок заб'е цябе. Ён за сто вёрст чалавечы дух чуе.

— Смерці я не баюся, — адказвае брат. — А вось давай лепш падумаем, як твайго гас-

(Працяг на стар. 10)

**Васіль Вітка**

### ДУДАРЫК

(Заканчэнне з папярэдняга нумара)

Я пад першы парог,  
А мне з хаты — пірог.

Я на дудцы ту-гу-гу —  
Ўсе нясуць па пірагу:

Мне і матка — пірог,  
Мне і татка — пірог,

Мне і дзядзька — пірог,  
Мне і цётка — пірог,

Мне і дзедка — пірог,  
І суседка — пірог,

І брацевік — пірог,  
І пляменнік — пірог.

Назбіраў я пірагоў  
Сорак восем карабоў.

Каб яшчэ адзін пірог,  
Я зусім бы абнямог.

Перастань, дуда, дудзець!  
Дзе мне пірагі падзець?

Сабралася ўся радня,  
Памагчы ўсе рады мне.

Запрагаюць каня —  
Ён і воза не скране.

Падагналі грузавік,  
Для яго — груз вялік.

Папрасілі самазвала,  
Ў самазвала сілы мала.

Залучыў я камара,  
Магутнага званара.

Той адразу ўзяў мой воз,  
Пірагі мае павёз.

Ай камар-маладзец!  
Тут і казцы канец.

## БАРЫСАЎКА — КРЫВАЯ — ГРАБАВЕЦ — ДАШЫ — СТАРАКОРНІН — АЎГУСТОВА — БРАВА!

Нацыянальны польскі банк паінфармаваў нас, што закончыўся міжшкольны конкурс на ашчаднасць за школьны год 1986/87. Яго традыцыйны лозунг: „Сёння ашчаджаю ў СКО — заўтра ў ПКО“.

Да конкурсу прыступіла 48 школ. Першае месца заняла Пачатковая школа № 8 з Беластока. Яны прымуць удзел у цэнтральных эліміновацыях конкурсу.

У групе школ са звыш 300 вучнямі большасць найлепшых былі з Беластока, але таксама Пачатковая школа ў Чаромсе і школа № 1 у Бельску.

У групе школ да 300 вучняў найлепшыя вынікі асягнулі пачатковыя школы ў: Барысаўцы, Крывой, Грабаўцы, Дашах, Старакорніне, Аўгустове каля Бельска.

„Зорка“ віншуе вас і цешыцца, што яе чытачы — людзі ашчадныя.

**Адказ на загадкі з 28 нумара „Зоркі“**

Зубы. Язык. Язык за зубамі. Пальцы. Чалавек у розных узростах.

**ЛЕТА ЛЕТА ЛЕТА ЛЕТА**



У пошуках прыгод. Фота Я. Чэрнякевіч.



© PDF: Kamunikat.org 2023

З суседскага агародчыка

## ВЫЛУЧЫЎСЯ

На наваселле да Капілкіных госці прыходзілі не з пустымі рукамі.

Карнеевы прынеслі чахол на коўдру з блакітнымі званочкамі.

Наталка Пабрызгаева падарыла такі ж чахол на коўдру, але з ружовымі кветкамі.

Сям'я Яўсеевых — ажно два чахлы на коўдру і прасціну.

Аляксеевы ўрачыста паднеслі цэлы набор навалачак.

Муж і жонка Калатушкіны ўручылі навасёлам адразу два наборы навалачак і два ручнікі.

І толькі Чыбушкін прынёс сервіз з каляровага шкла з інкрустацыяй і пазалочанай аблямоўкай. З усіх гасцей ён адзін працаваў не на швейнай фабрыцы, а на шклозаводзе.

**Уладзімір Шкаброў**

## ПАЗНАЙ СЯБЕ

1. Вы — лысы?
   Так — 100 ачкоў. Не — 1 ачко.
2. Умееце захоўваць тайны?
   Так — 100 ачкоў. Не — 1 ачко.
3. Аддаеце перавагу актыўнаму адпачынку?
   Так — 100 ачкоў. Не — 1 ачко.

Калі набралі 300 ачкоў, то вы — яркі брунет, хаваеце грошы ад жонкі і развязваеце на рабоце красворды.

Калі набралі 5 ачкоў, дык вы слабыя ў матэматыцы.








## СЯБАР

— Дзе ваш муж, пані Задрыпкоўская?

— Дома, са сваім чацвераногім сябрам!

— А я не ведала, што вы абзавяліся сабачкам!

— Гэта зусім не сабачка, а канапа...

## ВОСЬ ХРЭН!

Адзін худы задрыпанец зайздросна глядзеў на ружовашчокага здаравяку, і спытаў яго:

— Ад чаго вы такі свежы і здаровы?

— А я ем шмат хрэну, — з усмешкай адказаў здаравяка.

— А як жа вы яго ясце?

— З салам!

## ЦУДОЎНЫ ГОЛАС

Малады спявак — прафесару:

— Як вы лічыце, прыдасца на што-небудзь мой голас?

— Вядома, што за пытанне?! Пры пажары або аварыі яму цаны не будзе!

Без слоў.



**Паспрабаваў жыць так, каб трапіць у рай, але зразумеў, што гэта пекла.**

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Іван Раманавіч! Вы абяцалі на раённай нарадзе, што з кожнага курынага яйца вылупіцца па двое куранят. На што вы, уласна, разлічвалі?..

— На яйкі з двума жаўткамі.

— ✻ —

Пачынаючая прадаўшчыца да загадчыка магазіна.

— Пакупнік пытае, ці сядзе пасля сціркі выбраны ім свіцер ці не. Што яму сказаць?

— А ён яму якраз?

— Не, вялікаваты.

— Тады скажыце, што сядзе...

— ✻ —

— Мой цырульнік вынайшоў аўтаматычную брытву. Кліент укладвае ў апарат галаву, і праз секунду ён начыста выбрыты.

— Але гэта немагчыма. У кліентаў жа розныя галовы.

— Гэта толькі перад першым брыццём.

## МІНІВЕРШЫ

### ПРЫНЦЫП ПРЫСТАСАВАННЯ

— А ці быў бы я ля місы,
каб не йшоў на кампрамісы?

### СКАРАЧЭННЕ ШТАТАЎ

Селяніну раіла Ліса:
— Прагані з двара ты, браце, пса,
бо сядзіць ён ля дзвярэй
і палохае курэй,
ад таго, што брэша здуру,
не нясуцца твае куры.

**Хведар Жычка**

З „Весніка Задрыпоніі“

### ФІЛАСОФСКАЕ ТЛУМАЧЭННЕ

Свой шосты шлюб Аэліта Барсучок тлумачыць тым, што колькасць абавязкова павінна перайсці ў якасць.

### З РОЗДУМАЎ СУМЛЕНЕВІЧА

**Навошта чалавеку такое сумленне, якое бясконца яго мучыць?**



— Няўжо парыкі яшчэ ў модзе?





## КУРЁЗЫ

### СЕРВІС У СВЕЦЕ НАСЯКОМЫХ

Карове добра — надакучлівых мух яна можа адагнаць хвастом. Жуку-дрывасеку горш: хваста ў яго няма.

Не ўсе ведаюць, што насякомыя вельмі часта служаць харчам, домам і транспартным сродкам для яшчэ больш дробных насякомых. Напрыклад, ёсць дзесяткі відаў кляшчэй, якія паразітуюць на сваіх таксанамічных суседзях. Яны проста падбіраюць кожную арганізму, якая трапляе на спіну насякомага — суверэна. Іншыя пацыху кормяцца сваім гаспадаром. Такім чынам, кляшчы разглядаюць дрывасекаў як пенсіянат: тут табе і снеданне, і заўсёдашні дом. А для псеўдаскарпіёнаў дрывасекі — дармовае таксі. Гэтыя павукападобныя вядуць сядзячы спосаб жыцця, але час ад часу перабіраюцца на новае месца, учапіўшыся ў лапку прабягаючага міма жукадрывасека.

### АБ'ЯВА

„Прадаецца энцыклапедычны слоўнік. Ні разу не быў у карыстанні. Мая жонка і так усё ведае“.

Газета „Пенсільванія пэйпэр“.




Вушы дараваны чалавеку, каб убіраць чужыя думкі, а язык — каб выказваць іх у якасці ўласных.

© PDF: Kamunikat.org 2023